## Искали алмазы, нашли... минералку

***По мнению белорусских геологов, в земных недрах Рогачевского района возможны залежи алмазов. Их-то и искали буровики. Но из скважины в окрестностях деревни Балаба неожиданно ударил фонтан минеральной воды.***

У государственной стороны пока не возникло особого интереса к пробуренной скважине. Может, оттого, что минеральная вода "Рогачевская", открытая в свое время на территории района, уже продается в магазинах страны. Правда, утверждают специалисты, химический состав новой минералки значительно отличается от прежней.

**Олег СМОЛЯКОВ.**

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб павелічэнні штатнай колькасці пракурорскіх работнікаў і спецыялістаў органаў Пракуратуры Рэспублікі Беларусь

У мэтах кадравага забеспячэння органаў Пракуратуры Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з раздзелам 6 Дзяржаўнай праграмы першачарговых мер па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю, адобранай пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 13 красавіка 1994 года "Аб Дзяржаўнай праграме першачарговых мер па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1994 г., N 17, арт. 293), Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Павялічыць з 1 сакавіка 1995 года штатную колькасць пракурорскіх работнікаў і спецыялістаў органаў Пракуратуры Рэспублікі Беларусь на 117 адзінак, у тым ліку:

дваццаць восем адзінак следчых раённых (гарадскіх) пракуратур;

семнаццаць адзінак старшых следчых па важнейшых справах пракуратур абласцей і рэспубліканскай пракуратуры;

сем адзінак следчых-крыміналістаў пракуратур абласцей і рэспубліканскай пракуратуры;

дваццаць сем адзінак памочнікаў раённых (гарадскіх) пракурораў;

дзесяць адзінак старшых памочнікаў раённых (гарадскіх) пракурораў;

пяць адзінак намеснікаў раённых (гарадскіх) пракурораў;

трынаццаць адзінак пракурораў аддзелаў пракуратур абласцей і горада Мінска;

пяць адзінак галоўных спецыялістаў-кансультантаў пракуратур абласцей;

пяць адзінак пракурораў аддзелаў рэспубліканскай пракуратуры.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзець пытанне аб выдзяленні адпаведных матэрыяльных сродкаў для ўведзеных дадатковых штатных адзінак.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

11 красавіка 1995 г., г.Мінск.
№ 3707-XII

50 Што было, тое было

# Неразгаданы Хведзька

**Васіль МАЕЎСКІ**

Да вайны героя гэтага майго нарыса, Хведзьку Барысенку, я амаль што не ведаў: адно — жылі мы ў процілеглых канцах нашага вялікага тады сяла Хізаў, а другое — і, мабыць, галоўнае, — быў ён удвая старэйшым за мяне. Чуў толькі не раз з аповедаў свайго бацькі, што Хведзька — сын колішняга царкоўнага старасты, гаспадарлівага аднаасобніка Харлана, з якім нязменна з маладых гадоў сябраваў мой дзед-аднаасобнік Павел, — і, напэўна, на гэтай падставе лічыў яго вялікім руплівцам і ўзорным сем'янінам. Аднак, як аказалася, да свайго бацькі яму было так далёка, як небу да зямлі: відаць, новы лад жыцця, з якім не доўга не мог змірыцца стары Харлан, адмоўна паўплываў і на сына. Хведзька (і не ён адзін у вёсцы!) не вызначаўся ні асаблівай гаспадарскай рупнасцю, ні строгай рэлігійнасцю і, як кажуць, жыў па прынцыпу: як змяню, так і будзе. Добра яшчэ, што не страціў атрыманых у спадчыну ад бацькоў дабрыні, павагі і спагады да людзей, хоць гэтыя станоўчыя якасці яго характару іншы раз цяжка было распазнаць з-за яго падчас блюзнерскіх выбрыкаў і паводзін. І таму, блізка сутыкнуўшыся з ім першай акупацыйнай восенню на адной з вечарынак, я зусім невыпадкова здзівіўся:

— Немалады чалавек, які мае жонку і дзіця, водзіцца з намі, бязвусымі юнакамі і падлеткамі?! Што можа быць агульнага ў гэтага дзядзькі з учарашнімі школьнікамі?

— О-о-о! Паслухаеш, як ён хораша спявае, — заўважыла мая дваюрадная сястра Ліда, даючы мне зразумець, што Хведзька зусім не лішні чалавек на маладзёжных пагулянках-зборышчах.

І сапраўды: спяваў ён прыгожа, ды і песень ведаў шмат — і народных беларускіх, і ўкраінскіх, і новых савецкіх. Памятаю, з якой настальгічнай узрушанасцю запяваў ён у той вечар "Любимый город", "Полюшко-поле"... Менавіта той глыбокай восенню 1941-га Хведзька папоўніў наш рэпертуар дзесяці адшуканай песняй пра Напалеона-заваёўніка, які, атрымаўшы добрую пачостку пад Барадзіно і прадчуваючы пагібель сваёй арміі, небеспадстаўна раскайваўся:

*Зачем я шел к тебе, Россия,*
*Европу всю держа в руках?*
*Теперь с поникшей головою*
*Стою на кремлевских стенах...*

Гэты куплет мы, заклапочаныя лёсам акупіраванай Айчыны, падхоплівалі з асаблівай сілай і настальгічным настроем. І не толькі мы. Нават мясцовыя паліцаі, завітаўшы, як яны хлусілі, проста на агеньчык, не раз падпявалі Хведзьку і нам. Ім было і няўцям, што гэтым куплетам мы выказвалі свае адносіны да палыхаючай вайны: маўляў, добра, што ў такое ж пікавае становішча пад Масквой трапіў і новы прэтэндэнт на сусветнае панаванне шалёны Гітлер. Няцяжка было зразумець, якія ўражанні і настрой рабілі гэтыя словы на першага сакратара Кармянскага райкома партыі Міхася Бруйка, які ў тыя трывожныя дні і вечары хворы знаходзіўся ў падмосці Лідзінай хаты, хаваючыся ад фашыстаў, і на былога пятлюраўца аднарукага Сёмку Андрэйчыкава, бургамістра воласці, вернага нямецкага прыслужніка, чыя хата стаяла насупраць той, дзе мы спявалі.

У пастаянных трывогах і чаканнях новых вестак з франтоў праводзілі мы дні і вечары. І — о, радасць! — у пачатку 1942-га да нас дайшлі чуткі аб партызанскіх дзеяннях у прыдняпроўскіх і засажэўскіх лясах. Такія весткі нярэдка прыносіў кіраўнік нашай падпольнай групы Мікалай Хілінскі, патаемна наведваючы то Рагачоўскі, то Быхаўскі раён. Шмат аб чым даведаліся мы і ад Хведзькі-спевака, сястра якога жыла ў партызанскай зоне, а яе муж, Буднікаў, быў адным са стваральнікаў партызанскага атрада, які потым вырас у 10-ю Журавіцкую брыгаду. Прычым, апавядаючы пра гэта, Хведзька са своеасаблівым, з'едлівым гумарам падкрэсліваў:

— Затрэсліся паджылкі ў фашысцкіх катаў і іх халуёў-памагатых...

І гэта ў той час, калі акупацыйны рэжым у Кармянскім раёне, у тым ліку і ў Хізаўскай воласці, рабіўся ўсё больш жорсткім, драконаўскім. У нашай вёсцы была ўведзена камендацкая гадзіна: хадзіць позна вечарам і ночу па вуліцы дазвалялася па спецыяльных пропусках толькі мясцоваму начальству і яго любімчыкам. Фашысцкія памагатыя амаль кожны дзень расклейвалі на відных месцах усё новыя загады і распараджэнні кармянскага каменданта, палохалі жыхароў расстрэламі і шыбеніцамі. Шмат каго з акружэнцаў, былых чырвонаармейцаў, што знайшлі часовы прытулак у вёсцы, бургамістр і стараста пад выглядам перарэгістрацыі сілком адпраўлялі ў раённую камендатуру, а адтуль іх дарога вяла ў лагеры для ваеннапалонных ці на катаржныя работы ў Нямеччыну. Праўда, і тут былі выключэнні. Адны з іх, як Саша з-пад Барнаула і Роня з-пад Ачынска (прозвішчы іх я не запомніў, бо яны і самі асабліва не афішыравалі іх), змаглі ўцячы ад фашыстаў і пайшлі ў партызаны. Другія, як, напрыклад, растачанін Аляксей Кірычэнка, падаліся ў паліцыю.

Менавіта ў тыя трывожныя дні першым з жыхароў нашай вёскі ўліўся ў Журавіцкі партызанскі атрад мой школьны сябра Мікалай Хілінскі, якога бургамістр Андрэйчыкаў лічыў "небяспечным элементам" і ўжо аформіў належныя дакументы для адпраўкі яго ў Нямеччыну. Перад адыходам у атрад народных мсціўцаў Мікалай папярэдзіў мяне, каму з вяскоўцаў можна верыць і давяраць, і сярод гэтых надзейных людзей ён назваў і Хведзьку Барысенку. І, трэба сказаць, яго давер Хведзька неўзабаве апраўдаў.

...Здарылася гэта пасля таго, як Мікалай з групай партызан 256-га Журавіцкага атрада позняй восеньскай ноччу зрабіў свой першы баявы візіт у родную вёску. У выніку — два самыя актыўныя паслугачы акупантаў: мясцовы людаед Мікола Майзікаў і прыблуда-турэмшчык Якаў Шрамчанка за здраду Радзіме і адданую службу фашыстам былі расстраляны, а два "бобікі" — Іван Чорт (Навуменка) і Васіль Быкаў (Елісееў),— памечаныя партызанскімі кулямі, выпадкова засталіся жывыя.

Пазбегнуў заслужанага пакарання і галоўны валасны паслугач Сёмка Андрэйчыкаў, які па патаемным ходзе з хаты спусціўся ў склеп і да раніцы прасядзеў там у споднях запэцканых портках і кашулі. На жаль, гэта не паслужыла для яго папераджальным урокам. Вылезшы са склепа і крыху ачомаўшыся ад страху, людаед з новай сілай узяўся за сваё. Гэта ён арыштаваў мяне той жа раніцай як аднаго з віноўнікаў начной трагедыі. І калі з Кармы прыехалі тры фашысцкія афіцэры і цэлая плойма паліцаяў і іх грузавік спыніўся каля будынка, дзе мясцілася валасная ўправа, Сёмка адрапартаваў старшаму каманды:

— Пан гаўптман! Адзін партызан мною арыштаваны, — і паказаў на хату, дзе я знаходзіўся пад вартай.

Карнікі аб нечым пагаварылі паміж сабой, пастаялі яшчэ з хвілін пяць і, чамусьці не заходзячы ў валасную ўправу, паехалі далей, у канец вёскі, каб прыняць удзел у пахаванні сваіх верных слугачоў, якія загінулі, "абараняючы інтарэсы вялікай Германіі". Ужо на хаду гаўптман паабяцаў бургамістру праз перакладчыка:

— А з гэтым арыштаваным разбяромся пазней. Прыдумаем яму вартую смерць!

Сталася так, што ў той жа дзень старастам вёскі (замест забітага) прызначылі Хведзьку. Такое яго "ўзвышэнне" для многіх маіх землякоў і па сённяшні дзень застаецца загадкаю. Адны сцвярджаюць, што на гэтую пасаду яго рэкамендаваў бургамістр, другія — што выбар такі зрабілі самі немцы, атрымаўшы ад Хведзькі кампраметуючыя доказы на Андрэйчыкава, які, маўляў, добрую палову сабранага ў насельніцтва цёплага адзення і абутку, прызначаных для замярзаючых пад Масквой нямецкіх ваяк, прысвоіў; трэція — што адбылося гэта не без уплыву партызан... Аднак, як бы там ні было, справа зроблена: Хведзька — сельскі стараста, і яго голас нешта значыў у вырашэнні майго лёсу, а дакладней — пытанні майго жыцця, якое апынулася на валаску ад смерці.

Перад самым пахаваннем забітых, як пазней расказала старая Харланіха — Хведзькава маці, тры нямецкія афіцэры і мясцовае начальства ў яе хаце доўга раіліся, як расправіцца са мною, арыштаваным, — расстраляць ці прынародна павесіць.

— Кроў за кроў, смерць за смерць! — даводзіў немцам бургамістр, настойваючы на павешанні.

Гаўптман спыніў свой позірк на Хведзьку, як бы чакаючы яго згоды. Але новы стараста, на здзіўленне ўсіх прысутных, запратэставаў:

— Я, пан гаўптман, не згодзен з бургамістрам. Па-першае, пад арыштам не партызан, а звычайны наш ціхамірны хлапчук. Ён, як кажуць, нікому ў вёсцы нават і вады не замуціў. Не ведаю, чаму прычапіўся да яго пан Андрэйчыкаў?..

— Ён калісьці праводзіў Хілінскага ў партызаны. А сёння ноччу той бандыт прывёў забойцаў у вёску, — даводзіў аднарукі Сёмка і дадаў: — Не выключана, што напад на нас яны зрабілі не без падказкі арыштаванага...

— А вы гэта дакладна ўстанавілі? — гаўптман строга-запытальна глянуў на Андрэйчыкава.

— Дакладна не было магчымасці, пан начальнік, — замітусіўся бургамістр: — Першы сняжок якраз прыцярушыў сляды партызан да хаты арыштаванага.

— Тады, магчыма, яго проста расстраляць, а не вешаць? — пазяхнуў гаўптман.

На нейкі момант усталявалася мёртвая цішыня, якую зноў парушыў Хведзькаў адчайна-настойлівы голас:

— Пан гаўптман! З яшчэ адной смерці, прычым нявіннай, я не хачу пачынаць сваю адказную службу трэцяму рэйху, — і, пакланіўшыся, адсек: — Калі так, як зы настойваеце, то я здымаю з сябе абавязкі старасты.

Гаўптману, відаць, імпанаваў незалежны характар новага "служакі", і ён, параіўшыся з астатнімі двума афіцэрамі, рашыў пакуль што не абвастраць становішча, а разабрацца з вінoю арыштаванага, так сказаць, у законным парадку. Распарадзіўся, каб мяне перадалі ў раённую паліцыю, дзе і даследуюць і расследуюць усё як трэба. Тут ужо Хведзька не мог пярэчыць, ён толькі даў знаць майму дзядзьку Сцяпану, каб той тэрмінова ехаў у Карму і шукаў там уплывовых знаёмых, якія б хоць як-небудзь знайшлі нейкія падыходы да паліцэйскага начальства.

Пасля пахавання па забітых зрабілі памінкі. Было і пітва, і закускі. Пад уздзеяннем самаробнага шнапсу важныя госці захмялелі і не агледзеліся, як стала змяркацца. Раптам спахапіўшыся, гаўптман даў каманду кіравацца ў Карму і тут жа папярэдзіў шафёра, каб ён паруляваў не па той дарозе, па якой ехалі сюды, а па другой, зарачанскай, што вядзе на Тарахаўку. Там, у мясцовага старасты Марозава, яны прыхопяць мяне, прыведзенага пад канвоем хізаўскай паліцыяй, і даставяць на сваёй машыне ў райцэнтр. Так і зрабілі, але там мяне не было: "бобікі" таксама запазніліся, і карнікі рушылі ў Карму без мяне. Мае канваіры, атрымаўшы ад тарахаўскага старасты вусны загад гаўптмана, пехатою павялі мяне ў райцэнтр.

Яшчэ дзесяць кіламетраў шляху да смерці засталіся ззаду. У памяшканні паліцыі мяне ўжо чакаў засмучаны дзядзька Сцяпан. Неўзабаве з'явіўся і следчы, чалавек сярэдняга веку, з даволі заклапочаным, як мне здалося, тварам. У сваім кабінеце ён бегла азнаёміўся з маёй справай і распарадзіўся пасадзіць у турэмны падвал, які размяшчаўся насупраць, праз вуліцу. Чаго толькі ні перадумаў я за тую ноч: і як мяне будуць вешаць ці расстрэльваць, і што я буду гаварыць перад смерцю, і што будзе з маёй маці і сястрой, якія засталіся ў вёсцы...

Аднак, як кажуць, усё добра, што добра канчаецца. Пасля шэрагу допытаў следчы выклікаў мяне зноў і, даўшы распісацца ў пратаколе, сказаў:

— Можаш быць свабодным, — і папярэдзіў: — Толькі надалей будзь больш асцярожным...

Што азначала гэтае яго папярэджанне, я, ашаломлены ці то радаснай нечаканасцю, ці то нечаканай радасцю, тады толкам не зразумеў. Выходзіў з памяшкання паліцыі, як з таго свету, і, саступіўшы з ганка на вуліцу, яшчэ доўга не верыў, што я на волі. І ў той жа дзень прыбыў у родную вёску.

А праз некаторы час даведаўся, што той следчы, былы камандзір Чырвонай Арміі, акружэнец, сам пайшоў у партызаны.

Так, дзякуючы добрым людзям, і ў першую чаргу Хведзьку-старасту, які, як расказаў мне потым Мікалай Хілінскі, патаемна перадаў запіску партызан следчаму, і вырашыўся канчаткова мой лёс, калі я, можна сказаць, вісеў на валасінцы ад смерці. І ўжо будучы партызанам і наведваючы свой Хізаў, я неаднойчы сустракаўся з першым сваім вызваліцелем.

— Шчыра кажучы, — прызнаўся мне аднойчы Хведзька, — калі цябе павялі ў Тарахаўку, спадзяванне на тваё вызваленне ўпала да нулявой адзнакі. П'яныя карнікі на чале з гаўптманам маглі цябе проста расстраляць.

Толькі для самога Хведзькі яго дабрыня да людзей (ён нікога з вяскоўцаў не прадаў і не выдаў фашыстам!) абярнулася няшчасцем. Калі ў канцы 1943 года савецкія войскі вызвалілі ад акупантаў усходнія раёны Гомельшчыны, у тым ліку і вёску Хізаў, Хведзьку арыштавалі і асудзілі. Тады асабліва не разбіраліся, якім ён быў старастам і як і каму служыў. Берыеўскі рэпрэсіўны канвеер працаваў на поўных абаротах, у сваіх жорнах ён перамолваў і вінаватых, і — нярэдка — невінаватых. Да апошніх якраз належыць і Хведзька.

Склалася так, што пра лёс гэтага чалавека я даведаўся праз пяць ці шэсць гадоў пасля яго арышту і, вядома, дапамагчы яму ўжо нічым і ніяк не мог: мае землякі паведамілі, што Хведзька загінуў пры спробе вырвацца на волю з аднаго з паўночных ГУЛАГаў.

Хай жа гэты мой нарыс пралье хоць кроплю святла на біяграфію майго земляка...

ПРАБЛЕМА!

## Есть такая коляска для инвалидов. Да нет к ней интереса...

Прочитав в "Народной газете" письмо А.Капыша за 12—14 ноября 1994 г. "Если нельзя выбраться из квартиры", сообщаем, что необходимая инвалидам коляска разработана белорусскими авторами Г.А.Семенюком, М.К.Змушко и др. Есть и патент от 4 ноября 1993 г.

Запатентованная инвалидная коляска КШ-1 решает задачу по удовлетворению потребности инвалидов в транспортном средстве для самостоятельного перемещения как по ровной поверхности, так и через препятствия: лестничные марши, бордюры, крутые склоны и др., как в городских условиях, так и в сельской местности. Габариты коляски позволяют пользоваться лифтом для подъема на этажи. Мы уверены: применение колясок данного типа благотворно скажется на здоровье и общественной активности инвалидов.

В настоящее время разработан технический проект и частично рабочие чертежи. К сожалению, из-за отсутствия средств на окончание проектирования и изготовление коляски КШ-1 работы прекращены.

А вот что нам ответил председатель Центрального правления Белорусского общества инвалидов Н.Колбаско:

"На сегодняшний день сотни инвалидов стоят в очереди на получение простейших инвалидных кресел-колясок. В Республике Беларусь слабо налажено обеспечение доступа инвалидов к жилым зданиям и иным объектам из-за нехватки элементарных пандусов.

Реальная возможность решить проблему беспрепятственного передвижения инвалидов в коляске — наладить выпуск инвалидных комнатных кресел-колясок и учитывать потребность инвалидов при проектировании и строительстве объектов специальной инфраструктуры.

Шагающая коляска потребует огромных затрат. Считаю, что производство модели коляски КШ-1 преждевременно и нецелесообразно в ближайшие 2—3 года".

Мы таким ответом не удовлетворены. Да и сотни инвалидов — тоже. Что — снова ожидать "гуманитарной помощи" от заокеанских дядей? А самим — сидеть сложа руки?!

Несерьезно все это. А мы все-таки надеемся на серьезных людей: помогите инвалидам почувствовать себя людьми! Наша коляска им просто необходима, за рубежом таких нет. Наши тел.: 52-77-25, 57-66-28.

**От имени авторов Георгий СЕМЕНЮК, Михаил ЗМУШКО.**

# ОБРАЩЕНИЕ

### к народам государств—участников Содружества и мировой общественности в связи с 50-летием Победы над фашизмом

Главы государств—участников Содружества Независимых Государств обращаются к народам своих стран и мировой общественности в связи с 50-летием Великой Победы над фашизмом.

9 мая 1945 года останется в истории человечества как самая памятная и самая значительная дата XX века: день торжества добра и свободы, день окончательного избавления народов от угрозы фашистского порабощения.

Героизм Советской Армии, партизан и подпольщиков, упорный самоотверженный труд наших людей в тылу, беззаветное мужество, стойкость и братство наших народов — вот что лежало в основе этой Великой Победы.

Важный вклад в борьбу с фашизмом внесли войска союзников, антифашистские движения, усилия народов всех стран антигитлеровской коалиции.

Победа стала ярчайшим проявлением всесокрушающей силы коллективного духа, самоотверженности народов и индивидуального героизма людей, отстаивавших и защитивших свое право на свободу и человеческое достоинство, способности народов всего мира к объединению перед лицом смертельной опасности.

Победа показала возможность и необходимость взаимодействия членов мирового сообщества в деле обеспечения международной безопасности и предотвращения новой мировой войны.

Мы никогда не забудем, что во имя мира, свободы и демократии были принесены огромные жертвы. От имени наших соотечественников мы обращаемся к народам государств—участников Содружества и мировой общественности с призывом чтить память погибших, бережно храня то, в чем она воплощена, воздавая должное оставшимся в живых творцам Победы.

Стремясь к упрочению всеобщего мира, мы торжественно подтверждаем твердую волю наших народов добиваться углубления всестороннего сотрудничества как в рамках Содружества, так и со всеми странами во имя мира и процветания.

Мы призываем всех приумножить усилия в противодействии новым угрозам мирной жизни нашей планеты, в ликвидации существующих и предотвращении возможных конфликтов, трагическое развитие которых может явиться вызовом идеалам гуманности и прогресса, таит в себе опасность новых бед, разрушений и кровопролития.

Сознавая свой священный долг перед павшими и живыми героями Великой Победы, мы обращаемся ко всем народам государств—участников Содружества Независимых Государств и мировой общественности с призывом объединить усилия и волю, чтобы избавить грядущие поколения от ужасов и бедствий новых войн!

# Рэферэндум і апладысменты

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

Я паважаю рускую мову. Павага гэтая праяўляецца, у прыватнасці, у тым, што частка маіх твораў (артыкулаў, навел) друкуецца на рускай мове ў часопісе "Неман".

У маёй сям'і прынята размаўляць па-беларуску. Гэта тая мова, якую мая дачка чула з калыскі, на якой пачала вымаўляць першыя словы. Матчына, родная мова. Але, выхаваная ў пашане да іншаземных моў, Марылька можа добра весці гутарку па-руску, засвойвае і англійскую (у беларускай школе, натуральна).

Усё гэта сведчыць пра лаяльнасць і павагу беларускага інтэлігента да мовы і культуры суседняй дзяржавы. Але я не лічу гэта нейкай асаблівай заслугай, пагатоў, мне не прыйшло б у галаву чакаць нечай падзякі, зарабляць на гэтым ачкі ў палітычнай гульні або напрошвацца на апладысменты.

Мне наогул непамысна чуць апладысменты, калі хваляць сваю або чужую мову. Мне вусцішна было чуць па тэлевізары, як пляскалі Прэзідэнту падчас сустрэчы яго з калектывам Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта ў верасні мінулага года.

Не ведаю, што адчувала большасць прамыславікоў падчас сустрэчы з Прэзідэнтам у той момант, калі ён замест старадаўняга беларускага герба "Пагоня" прапаноўваў узамен "колоски". Але я чуў па радыё смех і апладысменты.

У гэтым сэнсе мяне цяжка здзівіць, бо палітыка, кажуць, рэч сама па сабе амаральная. Мяне больш турбуе псіхалагічны феномен: што прымушае пляскаць у ладкі людзей, вонкава прыстойных, мажліва інтэлігентных, высокаадукаваных? У тых выпадках, калі сітуацыя вымагае сораму ці горкай усмешкі? Чаму гэтыя рэчы адбываюцца весела, бадзёра, бы на вайсковым парадзе?

Хочаш спасцігнуць псіхалогію іншага чалавека — прааналізуй сябе. Пастаў сябе ў адпаведныя варункі.

Я згадваю сябе васемнаццаці-дваццацігадовага, калі амаль не задумваўся пра каштоўнасць такіх рэчаў, як матчына мова, нацыянальная гісторыя, сімволіка. У той час я, мажліва, станоўча ўспрыняў бы прапанову аб "другой дзяржаўнай мове" (бо першай, роднай, мала карыстаўся) і аб адмене "Пагоні" (бо пра яе амаль нічога не ведаў). Я меў пэўныя шанцы зрабіцца завершаным манкуртам, калі б не спрыяльныя жыццёвыя абставіны і адна невялічкая "ўнутраная" акалічнасць.

Гэтая акалічнасць — прыхаванае пачуццё віны — перад гісторыяй, продкамі, чыя спадчына занядбаная. Гэта — неспакой сумлення ў чалавека, адчужанага ад роднай мовы. Адмахнуцца ад тысячагадовай гісторыі, ад мовы дзесяткаў пакаленняў, якія спарадзілі цябе, не так проста — прынамсі, трэба пераступіць цераз мулкасць сумлення, прыхаванае пачуццё віны або хаця б проста няёмкасць.

Цяпер я ўяўляю сабе тое ж неўсвядомленае пачуццё віны ў маладых або сталых сыноў Бацькаўшчыны, якія, гэтак жа, як і я, да часу мала задумваліся пра каштоўнасць такіх неўміручых рэчаў, як гістарычная памяць, мова. І вось гэтае пачуццё абудзілася ў іх — нягучным, але выразным неспакоем, трывогай: ці так жыву? ці так раблю? ці сплаціў доўг перад продкамі? Ці добра раблю, што не гучыць з маіх вуснаў матчына мова, што дзяцей уласных выхоўваю, вучу на чужой, хай сабе і пашыранай, мове? Вядома, гэтае пачуццё непрыемнае, ёсць спакуса прыглушыць яго, аспрэчыць, адагнаць. Але гэта зноў-такі не даецца проста так, без душэўнага вераду.

І раптам такі чалавек чуе з высокай трыбуны: усё нармальна! Няма ніякай віны, ніякай "здрады", наадварот, усё, што робіцца, — вельмі добра, карысна, культурна. Такая заява паралізуе тваё сумленне — і ты адчуваеш раптоўную палёгку, тваё сумленне перастала вярэдзіць цябе. Можна глыбока ўздыхнуць і — запляскаць у ладкі.

Пры гэтым ахвотна ўспрымаецца кожны, самы легкаважны аргумент — абы на карысць тваёй палёгцы, твайго вызваленага сумлення. Дзесьці на шырокім сходзе нейкі італьянец прамаўляў не па-італьянску, а па-англійску. Што з таго? Вызваленая свядомасць падказвае: нам трэба як хутчэй перайсці на рускую. Зрабіць яе дзяржаўнай мовай. А дзе логіка? У Італіі, як вядома, толькі адна дзяржаўная мова — італьянская. Колькі б хто ні прамаўляў на самых шырокіх сходах па-англійску, па-французску, па-нямецку.

Другі аргумент: беларуская мова "недасканалая", на ёй "немагчыма выказаць высокія думкі".

Добра, дапусцім, што "высокіх думак" не мелі Скарына, Будны, Купала, Гарэцкі, Караткевіч. Дапусцім. Але ж Гамер, Платон, Эсхіл, Рабле, Шэкспір, Дантэ, Петрарка, Шылер, Гётэ, Міцкевіч, Пушкін, Талстой, Шаўчэнка, Сянкевіч, Рыльке, Т.Ман, Бунін, Кіплінг, Кафка, Джойс, Сартр, Камю, Оруэл, Айтматаў, Борхес і дзесяткі, сотні майстроў слова і валадароў філасофскай думкі ўжо гаварылі з намі па-беларуску... Зразумела, з дапамогай кваліфікаваных перакладчыкаў, якія здолелі перанесці ў беларускі тэкст самыя далікатныя моўныя нюансы, сэнсавыя адценні іншамоўных тэкстаў. Вы можаце прыдбаць гэтыя кнігі ў кнігарнях або запытаць у бібліятэцы.

Можна запэўніваць, што з беларускай мовай "нічога не станецца", "яна застанецца дзяржаўнай", што праблема адно ў тым, каб "ураўняць яе з рускай"... Бог з вамі, пра якую роўнасць ідзе гаворка? Паглядзім цвяроза на сферы ўжывання абедзвюх моў у нашай дзяржаве. Што трэба ратаваць — беларускую або рускую мову?

Спецыялісты фіксуюць смерць мовы, калі яна перастае ўжывацца як сродак камунікацыі, у асвеце, кнігадруку і г.д. Так загінулі шмат якія мовы, што маюць найменне "мёртвых", а разам з імі адышлі ў нябыт народы — носьбіты колішніх моў. Шчаслівы лёс жывых моў, якімі карыстаюцца ва ўсіх сферах жыцця.

Беларуская мова зараз перажывае рэанімацыйны стан; для сапраўднага яе адраджэння патрэбна, каб яна гучала на ўсіх узроўнях грамадскага жыцця, каб на ёй гаварылі ў сям'і, у школе, у Акадэміі навук, у службовым кабінеце, у войску і ў шпіталі. Я разумею эмоцыі Ніла Гілевіча, усхваляванага прыкрым інцыдэнтам у педагагічным універсітэце ў верасні мінулага года, — згаданымі ўжо апладысментамі. І падзяляю гэтыя эмоцыі. Пісьменнік знайшоў дакладную паралель таму, што адбывалася: маці — родная мова — ляжыць хворая, у непрытомнасці, вакол яе сабраліся сыны, і большы з іх кажа: навошта лячыць, усё адно — старая, непрыгожая... Меншыя сыны адказваюць воплескамі...

Сам факт вынясення моўнай праблемы на рэферэндум не мае маральнага абгрунтавання. Мова — надзвычай далікатная сфера, каб умешвацца ў яе гэткім недасканалым шляхам, як галасаванне. Дэпутацкія выбары, рэферэндум — падзеі палітычныя, якія ў нашых варунках могуць разгортвацца востра, нават драматычна. Навошта падключаць сюды моўнае пытанне, палітызуючы яго? Недаравальна, калі мова, сімволіка — святыя для народа рэчы — робяцца часткай палітычнай барацьбы. Можна "выйграць" рэферэндум аб мове — ці ж выйграе ад гэтага мова, руская ці беларуская? Мова — не палітыка, не спорт, яна — праява духоўнага, маральнага быцця, рэч далікатная, можна сказаць, інтымная, не прадмет для "ўсенароднага галасавання".

Ёсць праблемы, звязаныя з нацыянальным Адраджэннем, тэмпы якога залішне марудныя для адных і залішне хуткія для другіх? Ёсць праблемы з пераводам адукацыі, навукі, справаводства на беларускую мову? Нехта не мае магчымасці засвоіць дзяржаўную мову? Дзесьці не хапае дасведчаных педагогаў, здатных выкладаць дысцыпліны па-беларуску? Праблемы вырашацца з часам, частка іх ужо цяпер паспяхова вырашаецца.

Справа ў тым, што некаторыя эксперыменты, не пралічаныя загадзя, могуць аказацца згубнымі, а не прывесці да жаданай "кансалідацыі" нацыі. Узаконенае дзяржаўнае "двухмоўе" можа абумовіць процістаянне рускай і беларускай моў, якога не павінна быць. Рэферэндум "за" рускую мову можа ператварыцца ва ўзаконеную расправу над беларускай мовай, а ўдзельнікі рэферэндуму могуць аказацца ў ролі прыхільнікаў гэтае расправы. У такім выпадку "за" ў бланку для галасавання пакіне ў чалавеку ўзмоцнены комплекс віны — перад бацькоўскай мовай, перад продкамі. Пакутнае сумленне такога чалавека не ачысціцца, колькі б працэнтаў ні прагаласавала "за". Увогуле гэтыя працэнты будуць сведчыць пра духоўнае нездароўе грамадства — калі яно шляхам галасавання вынесе прысуд роднай мове. Мы не ведаем наступстваў, якімі можа абярнуцца гэткі калектыўны комплекс віны, прынамсі, ён пагражае новымі сацыяльнымі катаклізмамі. Мо, досыць эксперыментаў?

Нехта ўжо настроіўся на "перамогу" ў рэферэндуме... Каго і ў чым будуць перамагаць? Маці — родная мова — усё яшчэ ляжыць хворая, вакол яе — сыны з бланкамі-бюлетэнямі ў руках...

Будзем галасаваць?

## Подвели под пули яйца

***55 коробок яиц на общую сумму свыше 11 миллионов рублей пытались вывезти "кабаньими" тропами к себе на родину три гражданина Латвии.***

Их автомобиль "УАЗ-452" задержан нарядом полоцкого пограничного отряда в районе деревни Рожки. Один из задержанных попытался скрыться с места происшествия. Старшему пограннаряда пришлось выхватить пистолет. Предупредительный выстрел привел контрабандиста в чувство.

Со слов задержанных, они пытались пересечь белорусско-латвийскую границу вне установленных пунктов пропуска, дабы избежать расходов, связанных с оформлением груза. Сэкономить не удалось: товар конфискован.

**Николай СМЕХОВ.**

## Не в особо крупных, но у особо слабых...

***"Хищение в крупных размерах" — так квалифицировало следствие деяния руководителя Вороновского дома-интерната для престарелых и инвалидов Анатолия К.***

Сотрудники ОБОП Витебского района обнаружили в его квартире много вещей, "приватизированных" директором "богадельни" во вверенном ему хозяйстве: от кухонной утвари до постельного белья с ведомственными штампами.

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС*ІНТЭРФАКС*НАРОДНАЯ ГАЗЕТА*

## Пульс дня

### Заяўка вывучана

**ДЖАКАРТА.** Заяўка Расіі на атрыманне статуса госця ў Руху недалучэння (РН) будзе вывучана ў ходзе маючых адбыцца афіцыйных кансультацый на ўзроўні міністраў краін—членаў руху ў інданезійскім горадзе Бандунг. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту ІТАР—ТАСС па тэлефоне дасведчаныя крыніцы з Бандунга, дзе на ўрачыстасці, прысвечаныя 40-годдзю першай афра-азіяцкай канферэнцыі, сабралася большасць прадстаўнікоў недалучыўшыхся краін.

### Новыя ядзерныя аператары

**ПАРЫЖ.** Арменія і Кітай сталі новымі членамі Сусветнай асацыяцыі ядзерных аператараў (ВАНО). На канферэнцыі асацыяцыі, якая праходзіць у французскай сталіцы, прадстаўнікі гэтых краін падпісалі Хартыю ВАНО. Гэтая арганізацыя была створана ў 1989 годзе і аб'ядноўвае практычна ўсе кампаніі свету, якія займаюцца выпрацоўкай атамнай энергіі. Пасля ўступлення ў ВАНО Казахстана, якое чакаецца ў хуткім часе, асацыяцыя цалкам аб'яднае ўсіх, хто мае АЭС.

### Засталося чакаць нядоўга

**ААН.** Мы чакаем адказу ад таджыкскай апазіцыі на прапанову аб прадаўжэнні спынення агню пасля 26 красавіка для працягу сваёй міратворчай місіі ў Таджыкістане. Аб гэтым паведаміў афіцыйны прадстаўнік генеральнага сакратара ААН Джо Сілс. "Мы можам пацвердзіць, — сказаў ён, — што ўрад Таджыкістана згадзіўся на прадаўжэнне спынення агню пасля 26 красавіка".

### У НАТО прымаць будуць, але асцярожна

**ВАШЫНГТОН.** Любое рашэнне аб пашырэнні НАТО будзе прымацца "з вялікай увагай, абачлівасцю і асцярожнасцю", але падыход ЗША "не атрымаў ніякіх змяненняў". Аб гэтым заявіў дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер перад пачаткам перагавораў з міністрам замежных спраў Польшчы Уладыславам Барташэўскім. Кіраўнік амерыканскай дыпламатыі адзначыў, што пратэсты з боку Расіі зусім не змянілі падыходу ЗША да працэсу пашырэння НАТО.

### Калі мэты агульныя

**БУДАПЕШТ.** У Будапешта і Варшавы агульная мэта: атрыманне членства ў НАТО і Еўрапейскім Саюзе. Гэта яшчэ раз пацвердзілі на сумеснай прэс-канферэнцыі, якая тут адбылася, прэм'ер-міністры Венгрыі і Польшчы — Д'юла Хорн і Юзэф Алексы. Кіраўнік польскага ўрада знаходзіцца ў Будапешце з афіцыйным візітам. Прэм'еры дзвюх краін лічаць, што далучэнне Варшавы і Будапешта да Паўночнаатлантычнага саюза не нясе ў сабе ніякай пагрозы для Расіі.

### Ультыматум у дзеянні

**ЗАГРЭБ.** Калі войскі Сербскай Краіны і "блакітныя каскі" не знімуць блакаду з аўтатрасы Загрэб—Ліповац, гэта зробяць спецпадраздзяленні харвацкай паліцыі. Такі ультыматум кіраўнік канцылярыі харвацкага прэзідэнта Хрвое Шарыніч паставіў спецпрадстаўніку генеральнага сакратара ААН Ясусі Акасі і камандаванню сіл ААН у Харватыі.

### Святкуецца тут упершыню...

**ТЭЛЬ-АВІУ.** Упершыню ў гісторыі Ізраіля ў гэтым годзе Дзень Перамогі будзе адзначацца як афіцыйнае агульнанацыянальнае свята. Гэта, як заявіў на прэс-канферэнцыі, якая тут адбылася, міністр па справах абсорбцыі імігрантаў Яір Цабан, стане сімвалам прызнання ізраільскай грамадскасцю неацэннага ўкладу, які ўнеслі яўрэі і ўсе іншыя народы свету ў разгром германскага нацызму.

### Кароль сеў... на дыету

Тлусты — значыць прыгожы, вельмі тлусты — вельмі прыгожы. Так здаўна лічаць жыхары Каралеўства Тонга — невялікай астраўной дзяржавы ў паўднёвай частцы Ціхага акіяна. Зразумела, самым лепшым быў самы галоўны чалавек — кароль. Уступіўшы на трон у 1965 годзе Тауфааху Тупоу-чацвёрты, якому зараз 76 гадоў, доўга ўтрымліваў тытул самага "важкага" кіраўніка дзяржавы ў свеце. Ягоная вага больш за 200 кілаграмаў.

Аднак нядаўна са сталіцы каралеўства прыйшло сенсацыйнае паведамленне: манарх зараз захоўвае вельмі строгую дыету і нават займаецца спецыяльнай гімнастыкай, каб скінуць лішнюю вагу і ўмацаваць здароўе. Нацыя тэрмінова пераглядае эстэтычны ідэал, а масавы спорт уваходзіць у моду.

**Аляксандр РАМАНАЎ.**
*Кітай.*

---

Амерыка вачыма беларуса

# 5. Бывай, Свабода! Час вяртацца дадому...

**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльны карэспандэнт
"Народнай газеты"**

Амерыка — гэта для многіх як сінонім слова "рай".

Праўда, райская брама адчыняецца не перад кожным. Ды і за брамай не кожнага чакае шчасце.

І ўсё адно прага лепшай долі здаўна клікала і працягвае клікаць сюды на сталае жыхарства мноства людзей з усяго свету.

У тым ліку — і з Беларусі.

❑

Тых, перад кім расчынілася-такі запаветная брама, амерыканская дзяржава не кідае на волю лёсу. Ей няма рэзону множыць шэрагі бадзяг ды злачынцаў. Таму імігрантам усяляк дапамагаюць адаптавацца і стаць на ногі — даюць (хоць і не надта вялікія) грошы, прадуктовыя талоны (і тут быламу "саўку" ад іх не падзецца!), медыцынскія льготы, магчымасць найхутчэй вывучыць мову і атрымаць кваліфікацыю... Як пажартаваў адзін экс-мінчанін, а цяпер жыхар Брукліна, "таварыш Клінтан нас не забывае". Жарты жартамі, а як падлічыў другі былы зямляк, за два гады амерыканскія ўлады выдаткавалі на ўладкаванне ягонай сям'і недзе пад пяцьдзесят тысяч долараў!

Дзяржава авансуе імігрантаў рознымі шляхамі. Можна, напрыклад, узяць пазыку, каб вывучыць сына ці дачку ва універсітэце (так, за вышэйшую адукацыю тут трэба выкладваць немалыя грошы, а больш-менш заможныя амерыканцы стараюцца, каб і сярэднюю дзіця атрымала не ў дзяржаўнай, а ў платнай прыватнай школе — там даюць намнога больш грунтоўныя веды). Вядома ж, авансы трэба рана ці позна адпрацоўваць, за ўсе даўгі разлічвацца.

А паспрабуй узбіся на свой заробак, калі беспрацоўных і сярод карэнных янкі хапае! Да таго ж нашыя дыпломы ў Амерыцы — фількіны граматы. Трэба нанова вучыцца, здаваць экзамены, атрымліваць ліцэнзію на права займацца адпаведнай дзейнасцю. А так — нашага прафесара медыцыны не возьмуць у штатаўскую бальніцу нават санітарам.

Знайсці працу! Любую! Гэта самае палкае жаданне "саўковага" імігранта. Не, ён не памірае з голаду (і нават харчуецца непараўнальна лепей за нас, бо фіялетавай "Астанкінскай" каўбасой тут проста не гандлююць ды смятану вадой не разводзяць). Але ты мусіш даношваць мешкаватыя адзежыны фабрыкі "Камінтэрн", цягнуць дадому са звалкі выкінутую мясцовымі багацеямі мэблю і кожны раз ад сэрца адрываць долар дваццаць пяць цэнтаў на метро. (Мо лепей пехатою? Але ж тады хутчэй саб'юцца чаравікі...) Беднасць, звыклая і масавая ў нас, тут, сярод райскай раскошы, цісне на душу, як валун. Асабліва калі бачыш вочы сваіх дзяцей, у якіх адбіваюцца агні казачных вітрын...

Уладкоўваюцца хто як можа. Дактары навук мыюць куфлі ў забягалаўках. Актрыса Алена Салавей асвойвае спецыяльнасць медсястры. Былы вядомы мінскі трэнер-шашыст Міхаіл Кац стаў гардам — гэта значыць ахоўнікам пры дзвярах нейкага офіса. Выпускнік факультэта журналістыкі Беларускага універсітэта, газетчык з немалым стажам, пасля доўгіх мытарстваў у Нью-Йорку атрымаў месца сантэхніка — і невыказна шчаслівы. Бо ўзбіўся нарэшце на свой хлеб (як-ніяк чатырнаццаць долараў у гадзіну!) і можа ўжо без душэўных пакут ахвяраваць дзецям пару купюр на ласункі ды забавы. Шмат жа хто, не маючы ліцэнзіі, мусіць падпольна, "па-чорнаму" гарбаціцца на гаспадара за 3—4 долары ў гадзіну.

Калі ж пашчасціла недзе больш-менш стала зачапіцца, то за месца трымаюцца рукамі і нагамі. Родныя традыцыі перманентных перакураў і апахмелак у абедзенны перапынак выветрываюцца надзіва хутка.

Часцяком выклікаюць міжвольную ўсмешку моўныя перлы новаспечанага амерыканца. Ягоны мозг днём і ноччу ліхаманкава працуе на засваенне англійскай лексікі, у галаве бедака — лінгвістычная каша, і ў выніку былы зямляк звяртаецца да цябе на унікальнай трасянцы: "Ай эм соры, Саша, наш трэйн..." (у вольным перакладзе: увага, дружа, пад'язджае наша электрычка).

❑ Гэты помнік імігрантам выразна нагадвае, што далёка не ўсіх напаткаў у Амерыцы рай.

У рэшце рэшт, многія (асабліва маладыя, здатныя да моў, з сучаснай перспектыўнай спецыяльнасцю) уладкоўваюцца зусім някепска. Былы выпускнік мінскага "палітэха" Яша, які стаў тут камп'ютэршчыкам і атрымлівае вельмі прыстойна нават па іхніх буржуйскіх мерках, з гонарам пракаціў мяне па Манхэтэне на сваім шыкоўным аўто. Гады жыцця ў затараканеным савецкім інтэрнаце і аклад савецкага інжынера згадваюцца яму як страшны сон. Прэстыжны легкавік з пуховамяккімі сядзеннямі, кандыцыянерам і пяшчотнай музыкай са стэрэадынамікаў — гэта цяпер яго маленькі, утульны сусвет. А Мінск застаўся недзе ў іншай галактыцы.

❑

Многія ж амерыканцы і зусім не падазраюць, што ёсць такая краіна Беларусь.

— Разумееш, — тлумачыў мне нью-йоркскі калега Левін, — яны, амерыканцы, — нацыя спажыўцоў. Пра іншыя дзяржавы тут мяркуюць перш за ўсё па таварах. Зірні на вітрыны: made in Японія, Кітай, Карэя (Паўднёвая, вядома)... Прабіваюцца на тутэйшы рынак былы сацыялістычны лагер, Балтыя. Вунь нават украінцы прапануюць сваіх бычкоў у тамаце. Ну, а Беларусь... Аднойчы на выстаўцы-продажы зброі бачыў нашыя прыцэлы да паляўнічых стрэльбаў. Сам разумееш, у чарзе за імі не душыліся — на аматара тавар... А яшчэ я з таварышам аднойчы правёў эксперымент на прыступках Нью-Йоркскага універсітэта. Сорак дзевяць студэнтаў з пяцідзесяці на пытанне, што ім вядома пра Беларусь, недаўменна паціснулі плячамі. І толькі адзін адказаў: гэта, маўляў, такое балота між Украінай і Балтыяй...

❑

І ўсё ж у мяне была шчаслівая магчымасць увачавідкі пераканацца: тут, на далёкім кантыненце, таксама жыве Беларусь.

Быў выдатны, цёплы і шчыры вечар сустрэчы з амерыканскімі беларусамі ў будынку фундацыі Крэчэўскага — своеасаблівым клубе нашай дыяспары ў Нью-Йорку. Я ўбачыўся з тымі, хто праз доўгія гады заакіянскага жыцця пранёс вялікую любоў да Бацькаўшчыны, яе мовы, культуры, гісторыі, з тымі энтузіястамі, дзякуючы якім не згасае ў асяродку выхадцаў з Беларусі нацыянальны дух. Тут былі "зубры" амерыканскай Беларушчыны — Антон Шукелойць, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель... Былі і маладзейшыя, тыя, што атабарыліся ў Штатах зусім нядаўна, — паэт Лявон Пранчак, бард Сокалаў-Воюш... Я не ўтрымаўся, спытаў у апошняга пра тое, што карцела: ты лічыш, Сяржук, што змагацца за Адраджэнне найлепей з-за акіяна? І атрымаў адказ: ён, Воюш, абавязкова вернецца на Беларусь...

А ўвогуле з кожным, хто прыйшоў на тую сустрэчу, можна было зрабіць вялікае цікавае інтэрв'ю. Шкада, што так падціскаў час. Але, дасць Бог, мы яшчэ сустрэнемся. Як-ніяк, парадкі ў нас ужо трохі іншыя, і тыя, каго некалі агулам запісвалі ў "здраднікі", могуць цяпер свабодна прыязджаць на Бацькаўшчыну. Хоць і сёння на сэрцы ў іх вялікая трывога за наш край. І да слёз крыўдна ім, здолеўшым за тысячы вёрст ад роднай зямлі захаваць сакавітую мову продкаў, калі ў сталіцы суверэннай Беларусі ў адказ на пытанне, як лепей дайсці да гатэля, хамаватая істота кідае ў твар: "Вы что, по-человечески спросить не можете?"

Я спадзяюся, што будзе яшчэ нагода распавесці пра іх драматычныя лёсы, няпростыя жыццёвыя пуцявіны.

Не бяруся сцвярджаць, што нашу краіну пакідалі ў ліхалецце адны бязгрэшныя пакутнікі. Але, не разбіраючы, мазаць дзёгцем усіх, каго віхура гісторыі закінула на чужыну (што дагэтуль з асалодай робяць некаторыя нашы замшэлыя выданні), — гэта проста ганебна і не па-людску. Што заставалася, напрыклад, рабіць настаўніку, якога чакаў ГУЛАГ толькі за тое, што і пры немцах ён працягваў вучыць дзетак у школе? Ці хлопцу, якому пасля катаргі ў рэйху "свяціла" гэтакая ж сталінская катарга?

Зрэшты, у газетным артыкуле не ахопіш усіх тых калізій, што выпалі на долю беларусаў, параскіданых сёння па белым свеце. Раю пачытаць кнігу Лявона Пранчака "Беларуская Амерыка", выпушчаную нядаўна "Полымем", — яна вам распавядзе пра многае.

❑

...Я стаяў на беразе Гудзона і шкадаваў, што ўжо нестае часу, каб сплаваць на цеплаходзіку да вострава, на якім узвышаецца статуя Свабоды. Зрэшты, для такіх, як я, кемлівыя амерыканцы прадугледзелі паліятыўны варыянт: кідаеш 20 цэнтаў у прораз усталяванага на набярэжнай аптычнага прыстасавання, прынікаеш вокам да акуляра — і вось яна, шматразова павялічаная лінзамі фігура...

Што і казаць — прыгожая кабета, унушальная.

І здаецца, што да яе, Свабоды, — рукой падаць.

Але... У аптычным аўтамаце нешта шчоўкнула — відаць, час дзеяння манеткі сышоў — і статуя зноў патанула ў смузе.

Бывай, Свабода!

Час вяртацца на Беларусь.

**Фота аўтара.**

*Нью-Йорк — Мінск.*

❑ *Каб сплаваць на цеплаходзіку да статуі Свабоды, ужо неставала часу...*

---

# "Паляванне на ведзьмаў" ці прымірэнне?

У кожнага грамадства — свае "ведзьмы". І паляванне на іх у розных краінах ідзе па-рознаму. У трох балтыйскіх краінах ворага называюць аднолькава — чэкісты. "Справа аб чэкістах" у Латвіі — ці то драма, ці то фарс.

Летам мінулага года ў Саэйме Латвіі было афіцыйна заяўлена, што ёсць даныя аб тым, што пяць дэпутатаў свядома супрацоўнічалі з КДБ. Ёсць нюанс: пры ўступленні на пасаду кожны дэпутат даваў клятву, што ніколі не супрацоўнічаў ні з якімі спецслужбамі. "Падмануўшым народны давер" прапаноўвалася сумленна прызнацца і скласці свае дэпутацкія паўнамоцтвы.

Прызнаўся адзін. Міністр замежных спраў Георг Андрэеўс, падрабязна напісаўшы ў газеце "Дыена" аб тым, што сапраўды перадаваў у "органы" справаздачы аб сваіх замежных камандзіроўках, у той час калі быў галоўным анестэзіёлагам рэспублікі. Яму прыйшлося скласці дэпутацкія паўнамоцтвы і расстацца з пастом міністра замежных спраў. У той жа час ён стаў амаль што героем у вачах грамадскай думкі (дзіўны час, калі звычайная чэснасць лічыцца геройствам). А астатнія чацвёра? Судамі яны былі апраўданы, і хоць па справе трох пададзены касацыйныя скаргі, сумненняў няма: іх супрацоўніцтва са спецслужбамі даказаць практычна немагчыма. Напэўна, калі б Андрэеўс не пакаяўся, дык і яго справу спынілі б за недаказанасцю...

Праблема для работнікаў латвійскай пракуратуры ў тым, што практычна ўсе справы агентаў і супрацоўнікаў знаходзяцца ў Расіі. І на неаднаразовыя просьбы латвійскага боку аб атрыманні гэтых дакументаў Масква дае далікатную адмову. Зараз у паветры лунае ідэя нацыянальнага прымірэння і адмены забарон на прафесію для былых чэкістаў. Адны гэтыя ідэі ўспрымаюць як лагічнае завяршэнне няўдалых спроб даказаць факт супрацоўніцтва з ЧК, а другія — як знявагу.

Ёсць і іншыя версіі. Практычна ўсе абвінавачаныя займаліся так званым навуковым шпіянажам, гэта значыць у пэўным сэнсе прыносілі Латвіі карысць. Іншыя, магчыма, займаліся зборам палітычнай інфармацыі. Бо далёка не ўсе супрацоўнікі КДБ праслухоўвалі тэлефоны і ўскрывалі пісьмы сваіх суайчыннікаў. Значыць, патрэбна градацыя віны. І, можа, сённяшніх абвінавачаных на самай справе трэба ўзнагароджваць. Бо спецслужбы існавалі заўсёды і будуць існаваць, яны неабходны дзяржаве, калі яна сапраўды клапоціцца пра сваю бяспеку.

У Эстоніі ж (відаць, у адпаведнасці з паўночным тэмпераментам) да гэтага часу справы "былых" не прыцягвалі да сябе шырокай увагі грамадскасці, калі не лічыць асобных скандальных публікацый, у якіх быццам бы былі ўказаны імёны і мянушкі агентаў.

У лютым гэтага года Дзяржаўны сход Эстоніі абсалютнай большасцю галасоў (толькі адзін дэпутат галасаваў супраць) прыняў закон з надзвычай доўгай назвай: "Закон аб парадку ўзяцця на ўлік і давядзення да агульнага ведама імёнаў асоб, якія служылі ў органах бяспекі і ваеннай разведкі або контрразведкі акупіраваўшых Эстонію дзяржаў ці супрацоўнічаўшых з імі". У аснове закона ляжыць заклік да былых чэкістаў самім прызнацца ў супрацоўніцтве са спецслужбамі СССР і гітлераўскай Германіі. Такім чынам, гаворачы аб мінулым, робіцца акцэнт на калабарацыянізм з акупацыйным рэжымам.

Тыя, хто самі прызнаюць факт супрацоўніцтва, павінны пацвердзіць гэта спецыяльнай заявай. Закон гарантуе, што імёны тых, хто прызнаўся, застануцца тайнай, акрамя тых выпадкаў, калі было здзейснена злачынства, на якое не распаўсюджваецца тэрмін даўнасці. Праз год пасля прыняцця закона імёны асоб, аб якіх ёсць звесткі, што яны працавалі ці супрацоўнічалі са спецслужбамі згаданых краін, будуць апублікаваны ва "Урадавым весніку". Праўда, за месяц да публікацыі імёнаў указаныя асобы атрымаюць адпаведную даведку, у якой будзе канстатавана, працавалі або супрацоўнічалі яны са спецслужбамі ці не. Аднак канчатковае рашэнне аб факце супрацоўніцтва ў адпаведнасці з законам можа прыняць толькі суд.

У адрозненне ад Латвіі Эстонія дае магчымасць кожнаму, хто "спатыкнуўся", вызваліцца ад гэтага цяжару, пакінуўшы сваё імя незаплямленым у вачах суграмадзян.

Напэўна, пытанне аб спецслужбах з'яўляецца экзаменам на сталасць для самога грамадства. Бо нават калі ў Іспаніі скінулі рэжым Франко, новы ўрад захаваў пенсію работнікам спецслужбаў франкісцкага рэжыму, толькі было забаронена ствараць сваю партыю.

**Ігар ВІНЯНКОЎ,
уласны карэспандэнт
"Народнай газеты" па
краінах Балтыі.**

# Цыгарэты і "Пи-53"

Амерыканскія вучоныя выявілі прамую ўзаемасувязь паміж курэннем цыгарэт і генетычнымі змяненнямі ў арганізме чалавека, якія прыводзяць да ракавых захворванняў. Як паведаміў доктар Джозэф Брэнан з Універсітэта Джонса Гопкінса (г.Балцімор, штат Мэрыленд), вучоныя даўно ўжо выказвалі меркаванне аб наяўнасці падобнай узаемасувязі, але ўпершыню ўдалося выявіць канкрэтны ген — "Пи-53" (літара лацінская), на які аказваюць згубнае ўздзеянне хімічныя інгрэдыенты, што ўтрымліваюцца ў тытунёвым дыме. Ген "Пи-53" адказвае за сінтэз бялку, які дапамагае арганізму змагацца з ракавымі клеткамі.

Паводле слоў Брэнана, былі праведзены даследаванні з удзелам 129 пацыентаў, якія пакутуюць на ракавыя захворванні ў вобласці галавы і шыі. У пацыентаў, якія кураць, мутацыі гена "Пи-53" назіраліся ў два разы часцей, чым у тых, хто не курыць, а калі курэц да таго ж прыкладваўся штодзённа да чаркі, — то ў тры разы.

**З Нью-Йорка
Аляксандр ПАХОМАЎ.**

# Помидоры уберегают от... рака

Помидоры могут помочь человеку уберечься от рака, утверждает британский ученый-химик Джордж Траскотт. По его мнению, содержащийся в их плодах красный пигмент ликопин, возможно, обладает способностью оказывать сопротивление канцерогенному действию вредных веществ, "потребляемых" человеком вместе с табачным дымом и выхлопными газами.

Ликопин относится к группе каротиноидов, известных науке своим благотворным эффектом, в частности участием в образовании витамина А.

"Люди, конечно, мало едят помидоров, — говорит Дж. Траскотт, — а около 800 граммов в день могли бы привести к значительным изменениям. Даже после тепловой обработки содержащиеся в них противораковые пигменты не теряют своей эффективности. Британский ученый считает, что ликопин особенно хорошо действует против двуокиси азота, которая является одним из компонентов выхлопных газов.

Почти килограмм томатов в день, даже при их наличии, многим покажется дозой слишком обильной, поэтому Дж.Траскотт планирует разработку концентрированных томатных таблеток. "Есть в этом и один побочный эффект, — говорит он. — Помидорная диета вызывает появление на коже человека своего рода искусственного загара. Однако это не так опасно, как излишнее пребывание на солнце".

**Из Великобритании
Игорь ПОЛЬСКИЙ.**

# "Эликсир жизни" для Ким Чен Ира

Пхеньян направил в секретном порядке медицинские миссии в зарубежные страны и районы, где высока продолжительность жизни населения, для поиска "эликсира жизни" для руководителя КНДР Ким Чен Ира, сообщило агентство Ренхап. Такие миссии, как утверждает агентство, посланы в Россию, на Кавказ, в Японию, Китай и на Тайвань.

В КНР и на Тайване эти миссии якобы уже отыскали редкие лекарства китайской традиционной медицины, которые продлевают человеку жизнь. Среди них — вещества из ласточкиного гнезда и помет этих птиц. Эти снадобья предназначены, в частности, для излечения от заболеваний легких.

Согласно утверждениям южнокорейских специалистов по Северной Корее, в КНДР еще в конце 80-х годов был создан научно-исследовательский институт для разработки методики долгожительства Ким Чен Ира. Этот центр был учрежден помимо научного заведения такого же профиля, предназначенного для работы по проблеме продления жизни его отца Ким Ир Сена. Еще в начале прошлого десятилетия в КНДР якобы начали собирать редкие медицинские препараты для Ким Чен Ира.



# "Тойота АСВ" — супербезопасный автомобиль

В XXI век крупнейший в Японии производитель автомобилей "Тойота" намерена триумфально въехать на самой безопасной в мире автомашине. Такое впечатление создается, когда знакомишься с новинкой "Тойота АСВ" (лат.) — только что законченным экспериментальным образцом автомашины будущего, в которой использованы 17 новейших технологий, призванных обеспечить максимальную безопасность водителю и пассажирам.

Сокращение "АСВ" переводится, как "перспективный безопасный автомобиль". В нем, как сообщили корреспонденту ИТАР—ТАСС в штабквартире концерна, использованы активные и пассивные способы обеспечения целостности его седоков. "Тойота" не впервые уделяет внимание проблемам безопасной езды: начиная с 1971 года ее инженеры создали четыре поколения экспериментальных машин, в результате чего серийные модели оснащались собственными системами надувных подушек безопасности, антиблокировки тормозов и другими новинками.

Конструкторы "Тойоты АСВ" противопоставили поджидающим на дороге опасностям четыре "полосы обороны": превентивную безопасность, предотвращение столкновений, сокращение до минимума ущерба при ударе, уменьшение последствий столкновения.

Для борьбы, например, с частым бичом водителей — сонливостью — предусмотрена особая система: если тот, кто за рулем, клюет носом, то особые сенсоры, следящие за движениями рук водителя и его пульсом, засекают его состояние и подают звуковой сигнал "побудки". Если это не помогает, то само сиденье начинает подбрасывать соню. А если сон настолько глубок, что и это не срабатывает, то тогда электронная система автоматически сбрасывает газ, включает тормоза и останавливает автомобиль. Если водитель внезапно почувствовал себя плохо, достаточно нажать кнопку — начнут мигать габаритные огни и машина сама остановится.

Особая световая система информирует на перекрестках пешеходов и встречные автомобили о том, что можно пересекать дорогу, а сзади идущие машины — о предстоящем торможении, приближении к перекрестку, подает сигнал с просьбой о помощи.

Кроме того, автоматика сигнализирует о возможности столкновения, падении давления в шинах, возгорании двигателя (плюс начинает тушение пожара), обеспечивает повороты и развороты в трудных условиях видимости, регулирует ночью свет фар, чтобы не слепить встречную машину, а особый радар предупреждает столкновение с другим автомобилем. Установлены на "Тойоте АСВ" особое записывающее устройство, подобное авиационному "черному ящику", а также автоматическая система СОС, вызывающая "скорую", полицию или другие службы.

**Из Японии—
Владимир КУТАХОВ.**

# Русская Оля — любимица немецких кутюрье

Поразительно, но факт: любимицами практически всех самых известных в мире кутюрье, затмив славу даже восхитительной Клаудиа Шиффер, стали в последнее время русские девушки. Говорят, что Карл Лагерфельд уже не представляет себе показ новейших моделей одежды без 19-летней Оли Пантушенковой, девушки из города на Неве.

Выбрав себе в любимицы Олю, писала газета "Бильд ам зонтаг", "король Лагерфельд" четко определил стратегическое направление развития его сложного ремесла. Свежие ветры приходят с востока континента — из России. И подмостки показа мод на Западе в последнее время покорили не только Оля, но и 19-летняя Лариса Бондаренко, 21-летняя Екатерина Гаранина. "В чем секрет их успеха?" — задает вопрос газета. Один из экспертов — Александр Шваб — так попытался его разгадать: "У манекенщиц с востока Европы удивительно привлекательные глаза, часто ослепительно голубые, часто обворожительно зеленые, в бездонной прозрачной глубине которых можно просто утонуть. Их полные губы несказанно чувственны. Однако взгляд сигнализирует о сдержанности и порядочности. И это крайне привлекательные противоречия".

Также и другие западные дизайнеры модной одежды мечтают о девушках с Востока. Эммануэль Унгаро утверждает: "Они прекрасны и излучают несказанную свежесть. Меня восхищают их загадочные лица". Особое впечатление произвела на него Катя Гаранина, ставшая любимицей мастера.

О славянских девушках мечтают также Пьер Карден, Жан Пьер Голтье, а также Кенцо. И на нынешних показах мод всемирно известных кутюрье каждая четвертая девушка — из Восточной Европы. Премьера Ольги состоялась летом прошлого года, когда ей довелось выступать с Клаудиа Шиффер, Синди Кроуфорд, Линдой Евангелиста, Кейт Мосс, представляя коллекцию "Шанель". И сейчас она прочно "прописалась" в столь знаменитой команде.

И сейчас, снимаясь для различных журналов мод, Ольга уже имеет до 10 тысяч марок в день, что недалеко от заработков Шиффер и Кроуфорд. И за право сфотографировать русскую девушку на титульной странице ведут борьбу такие журналы, как "Воке" или "Элль".

"Ольга наслаждается своим успехом, — писала "Бильд ам зонтаг". — Однако уже сейчас думает о своем будущем: выйти замуж хочет только за своего друга из России, изучать в университете своего родного города психологию. Даже когда я работаю в Париже, душа моя находится в Санкт-Петербурге, — говорит Оля".

**Геннадий КУЛЬБИЦКИЙ.**

*ФРГ.*

